ЧЫТАЧ ПРОСІЦЬ СЛОВА

# Дзяржаве больш не веру

Хай сабе пошта і падаражала, але я мушу напісаць гэты ліст, бо вельмі накіпела на сэрцы...

Мінула перабудова, аб'яўлена самастойнасць Рэспублікі Беларусь, але жыццё чамусьці не стала лепшым. Дзіву даюся: мы ж не пагарэлі, не было патопу, камяні на нас не падалі і зямля не трэскалася. Дык хто вінаваты, што жыць становіцца ўсё цяжэй?

Раскажу пра сваю сям'ю. Дачка закончыла ВНУ і была накіравана выкладчыкам англійскай мовы. Працуе, выконвае прызначаную ёй норму. А зарплату ёй далі такую, якую прыбіральшчыца атрымлівае за 2 гадзіны работы ў дзень. А дачцэ ж яшчэ і дома трэба рыхтавацца, і графік у яе разрыўны. Грошай на жыццё не хапае. Вучылася пяць гадоў і далей сядзіць на нашай шыі.

Сын служыць у арміі. Праслаў пісьмо, дык затрымалі на пошце, каб заплаціў за яго, бо на канверце не было марак. Калі салдату трэба плаціць за паслугі сувязі, дык няхай і яму плацяць спаўна, — сярэднюю зарплату, а можа і больш. А калі рэспубліка зрабіць гэта не ў стане, дык тады і армія не патрэбна, тым больш такая вялікая. Лепш меншая, ды лепшая.

А яшчэ хочацца сказаць пра тыя грошы, што зарабіў потам і крывёю. Даверыў іх дзяржаве, паклаў у ашчадны банк. Руплівы гаспадар заўсёды адкладваў на чорны дзень. А што цяпер з тых 6 тысяч: нават на пахаванне не хопіць, як памру.

Вось я і хачу спытаць у дзяржаўных мужоў: што яны збіраюцца рабіць, каб добра жылі навука, армія і ўсе працавітыя сумленныя людзі? Калі гэтага не адбудзецца, дык я паспрабую так жыць, каб вярнуць свае страты, якія панёс не па сваёй віне. І сваіх дзяцей буду гэтаму вучыць. А дзяржаве веры ніякай.

**А. ТАЎКУН.**

г. Гродна.

# Новыя асаднікі?

Не магу зразумець, чым кіраваўся наш урад, даючы згоду на будаўніцтва 7 гарадкоў на землях Беларусі (у Расіі — 8) для засялення іх вайскоўцамі ці асаднікамі з Расіі, якія едуць да нас з Германіі. Што, для іх Беларусь ужо стала пустыннай, незаселенай і неасвоенай зонай накшталт дзікага захаду ЗША 18-га стагоддзя? Ці, можа, мала ім зарослага быльнягом Нечарназем'я?

Кіраваліся, мабыць, адным: стварыць і на нашай зямлі штосьці накшталт «Прыднястроўскай рэспублікі». Дык гэтыя «часці» паказалі ўжо свае адносіны да нас, арганізаваўшы ў Гродна суд над беларускай мовай. А які крок будзе наступны?

А вырашаць вайсковую праблему трэба было проста — рабіць тое, што зрабілі Літва, Эстонія, Грузія. Ствараць сваё войска з нуля і не падманваць сябе ілюзіяй, што Савецкая Армія, якая знаходзіцца на нашай зямлі — гэта наша, беларуская армія.

**І. МАЛЫШКА.**

г. Слуцк.

# У судах беларуская мова не загучыць?

Не магу пагадзіцца з шэрагам артыкулаў і палажэнняў праекта Канстытуцыі. Сумна становіцца, калі чытаеш, напрыклад, варыянт 137-га артыкула. У ім прапануецца весці судаводства ў рэспубліцы на беларускай мове «ці на мове большасці насельніцтва данай мясцовасці». На першы погляд, гэта вельмі добра: так яно і павінна быць. Але ж каму не вядома, што тая большасць, пра якую тут гаворыцца, скрозь і ўсюды не размаўляе, на жаль, па-беларуску. Таму я перакананы: калі пройдзе гэты варыянт, то яшчэ доўга-доўга ў нашых судах не будзе гучаць дзяржаўная мова.

Дарэчы, аўтары варыянта не з'яўляюцца першапраходцамі. Ён спісаны з адпаведнага артыкула Канстытуцыі БССР, прынятай яшчэ ў 1978 годзе. Толькі злучнік «або» замянілі на злучнік «ці». Я таксама хацеў бы выкарыстаць адно з гэтых службовых слоў, каб спытаць: ці многа разоў за мінулыя чатырнаццаць гадоў у судах рэспублікі справы разглядаліся на беларускай мове?

...Відаць, і сёння некаторыя нашы парламентарыі не жадаюць, каб хутчэй адрадзілася мова таго народа, ад імя якога яны выступаюць з самай высокай трыбуны. І тут успамінаюцца мне радкі аднаго калектыўнага паэтычнага твору, які мы, школьнікі передваенных гадоў, старанна завучвалі, — «Пісьмо беларускага народа вялікаму Сталіну»:

Беларускую мову трымалі ў загоне,
Каб народ не пазбыў немаmы і бяды...

Тут аўтары, як няцяжка здагадацца, маюць на ўвазе дарэвалюцыйны час. Не дзіўна, што тагачасныя ўладатрымальнікі былі вельмі зацікаўлены, каб беларускі народ маўчаў, быў нямы, як рыба. Ну, а каму і чаму зараз выгадна трымаць у загоне мову, абвешчаную дзяржаўнай?

**Г. ЛАГУНОВІЧ,**
**ветэран вайны, афіцэр у адстаўцы.**



Шасцікласніцы Ірына БАБКО, Вольга ЖЫШКЕВІЧ, Алёна КАЧНЕВА вучацца ў мінскай сярэдняй школе № 133 і вельмі любяць народныя спевы. Гэтая школа добра вядомая сваімі музычнымі традыцыямі. Многія вучні прымаюць удзел у спектаклях мінскага дзіцячага музычнага тэатра «Казка». Гэты фотаздымак быў зроблены ў час спектакля «Чараўнік», калі юныя спявачкі за кулісамі чакалі свайго выхаду на сцэну.

Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА.

ДЛЯ ВАС, ЗАБУДОЎШЧЫКІ

# Дом на любы густ

Сёння мы прапануем праект дома, які адрозніваецца ад папярэдніх перш-наперш сваімі камфортнасцю, дыхтоўнасцю, дасканалым (да драбніц) выкарыстаннем усёй карыснай плошчы.



На першым малюнку вы бачыце гэты двухпавярховы гмах з пяццю пакоямі ўвачавідкі. Чорна-белы колер не дае магчымасці адразу заўважыць усе яго перавагі. Уявіце, што сцены, праёмы вокнаў, лесвічкі, балконы, перакрыцці і многае іншае афарбавана ў колеры, якія вам падабаюцца. Упэўнены, гэта будзе нейкая казка...

Дом сапраўды добры. Ва ўсіх адносінах. Яго найлепш выкарыстоўваць сем'ям, дзе шмат дзяцей, сярэдняй рукі прадпрымальнікам, фермерам.

На першым паверсе размешчаны пярэдняя, агульны пакой, кухня і сталовая. Другі паверх аддадзены толькі для жылля — ажно чатыры пакоі. Два аднолькавыя, бы блізняты і яшчэ два — больш прасторны і зусім маленькі. Уваход у кожны з іх асобны з калідора і лесвічкі. Агульная плошча гэтых пакояў — амаль 54 кв. метры.

Цяпер зазірнём уніз. Пад усім домам падвал. Як і раней, ёсць гараж для аўтамашыны. А далей — чатыры амаль аднолькавыя «закуткі»— склад для паліва, схованкі для агародніны і садавіны (яны асобныя), майстэрня. Самая вялікая з іх — майстэрня. Тут ёсць дзе разгарнуцца ўмельцам, бо гэта сапраўдны палац — аж 12,8 кв. метра!

На двух паверхах прадугледжаны санвузлы. Ацяпленне — паравое. У падвале ёсць пакойчык, дзе ўстанаўліваецца кацёл. На ўсіх паверхах наладжана неабходнае інжынернае абсталяванне — водаправод, каналізацыя, газа і электразабеспячэнне.

Праектная дакументацыя «закранула» ўсё так глыбока, што дазваляе весці будаўніцтва і падрадным спосабам, і самім забудоўшчыкам — індывідуальна.

Дададзім, што сцены з газасілікатных блокаў і цэглы. Праекціроўшчыкі прадугледзелі і такую «дробязь», як сумяшчэнне ў адно цэлае дома і кармакухні, лазні і паўзаглыбленай цяплічкі. Якраз тое, што трэба фермеру ці проста заўзятаму агародніку.

Будаўнічыя аб'ёмы ўнушальныя — 1.396,74 куб. метра. Плошча самой забудовы — 118,2 кв. метра. Кватэры займаюць 147,96, а гаспадарчыя памяшканні — 54,15 кв. метра.

На ўзвядзенні падвала выкарыстоўваюцца зборныя стужкавыя блокі і пліты. Вонкавыя сцены з газасілікатных блокаў абліцоўваюцца цэглай. Можна выкарыстоўваць і адну цэглу. А вось унутраныя сцены — толькі з цэглы.

Усе перакрыцці са зборных жалезабетонных пліт. Але існуе варыянт выкарыстання дрэва. Для даху выкарыстоўваюцца кроквы з дрэва. Накрываецца дом шыферам.

Вось які расход будаўнічых матэрыялаў. Цэглы керамічнай патрэбна 41,56 тыс. штук, блокаў газасілікатных — 63,2 куб. метра, цэменту — 14,39 тоны, пліт фундаментных—36 штук, блокаў для сцен падвала—145 штук, пліт перакрыццяў—41, перамычак жалезабетонных — 97 штук, дошак габляваных таўшчынёй 18 і 28 мм — 4,53 куб. метра, іншых піламатэрыялаў — 16,03 куб. метра.

Кошт усёй забудовы, на жаль, вельмі высокі. Адна цэгла колькі цягне!

А цяпер звернемся да чарцяжоў. На іх размешчаны па парадку: 1. Тамбур — 3,59 м²; 2. Пярэдняя — 15,78; 3. Агульны пакой — 19,22; 4. Кухня — 10,76; 5. Сталовая — 10,22; 6. Пакоі для жылля — 53,91; 7. Ванная — 3,7; 8. Калідоры — 21,87; 9. Кладоўка 2,1; 10. Веранда — 10,45; 11. Халодная кладоўка — 1,8; 12. Туалет — 2,42; 13. Кацельная — 4.15; 14. Склад для паліва — 10,1; 15. Схованка для агародніны — 8,75; 16. Схованка для садавіны — 8,75; 17. Майстэрня — 12,8; 18. Гараж — 16,2 кв. метра.

Набыць гэты праект можна ў інстытуце «Мінскпраект» па адрасу: 220123, Мінск, вул. В. Харужай, дом 13/61, пакой 317. Тэлефон — 33-74-27.

**Мікалай ЧАХОЎСКІ.**

ПЛАН I ПАВЕРХА



ПЛАН II ПАВЕРХА



ПЛАН ЦОКАЛЬНАГА ПАВЕРХА



# Беларускія лібералы: разлік на тых, хто хоча і можа рабіць справу

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

**— Традыцыйнае пытанне рубрыкі «Хто ёсць хто», — як бы Вы вызначылі месца АДПБ на цяперашняй палітычнай шкале Беларусі?**

— У расстаноўцы партый на палітычнай шкале сёння вялікая блытаніна, выкліканая адносінамі партый да нацыянальных праблем. Для прыкладу, Беларуская сацыял-дэмакратычная грамада па класічных канонах — тыповая левая партыя. Але ў нацыянальным пытанні яна займае правыя пазіцыі. Таму найбольш правільна ў нашых умовах было б правесці класіфікацыю па адносінах партый да прыватнай уласнасці, правоў чалавека і г. д. Калі зыходзіць з гэтых крытэрыяў, наша партыя — правацэнтрысцкая. Правей за нас — Нацыянальна-дэмакратычная партыя, Хрысціянска-дэмакратычная злучнасць. Лявей — Грамада, камуністы. Найбліжэй — Сялянская партыя. Не вазьмуся нават вызначыць, хто з нас лявей, а хто— правей.

Што датычыць Народнага фронту, то тут адназначна сцвярджаць цяжка. Гэта — рух, а не партыя. У яго няма ярка выражанай арыентацыі,— Фронт аб'ядноўвае і «правых», і «левых». Напрыклад, на наш партыйны клуб, які праходзіць, дарэчы, кожную сераду, нядаўна прыходзіў прадстаўнік БНФ, які заявіў, што ён — марксіст.

**— Уявім: рэферэндум адбыўся, Вярхоўны Савет і ўрад распушчаны. Ваш прагноз — хто прыйдзе да ўлады на Беларусі ў выніку новых выбараў? Наколькі рэальныя шанцы ў пост-камуністаў зноў заняць кіруючыя крэслы?**

— Такая небяспека, на жаль, пакуль што рэальная. Мы не ўскладаем вялікай надзеі на рэферэндум, хоць і спадзяёмся, што ў выніку новых выбараў Беларусь будзе мець больш дэмакратычны, чым цяпер, парламент. Але хутчэй за ўсё сфармаваць дзеяздольны ўрад будзе надзвычай цяжка. На гэта спатрэбіцца вельмі шмат часу.

Сітуацыя не дазваляе спадзявацца толькі на рэферэндум. На нашу думку, у краіне трэба як найхутчэй уводзіць пост прэзідэнта, які б мог сфарміраваць урад як адзіную каманду. Незалежна ад таго, хто зойме гэты пост, — ён вымушаны будзе праводзіць эканамічную рэформу, — гэтага вымагае сітуацыя. Без моцнай выканаўчай улады ў цяперашніх умовах рэспубліку можа напаткаць хаос.

**— Вам не здаецца, што ў нас няма яркіх асоб, якіх адназначна падтрымала б большасць беларускага народа на прэзідэнцкіх выбарах?**

— Гэта наша даўняя хвароба: у нас заўсёды былі толькі першыя асобы. Апазіцыйных лідэраў чакаў незайздросны лёс. Рана ці позна з гэтага стану трэба выходзіць. Магчымыя прэзідэнцкія выбары якраз і выявілі б такіх асоб, на адсутнасць якіх мы цяпер наракаем. А дастойныя кандыдатуры ёсць — проста мы пра іх мала ведаем.

**— Многія мяркуюць, што адной з найбольш уплывовых палітычных сіл можа стаць нядаўна створаная Партыя народнай згоды.**

— Цяжка загадваць аб будучым. Ідэя народнай згоды пярэчанняў не выклікае, але, мне здаецца, ПНЗ рана ці позна вымушана будзе заняць акрэсленую палітычную пазіцыю. Сама па сабе ідэя згоды не дае канкрэтнага плана выратавання. Таму, на маю думку, гэта партыя або пачне эвалюцыяніраваць у нейкім канкрэтным напрамку, або распадзецца на некалькі палітычных сіл.

**— Ці мае АДПБ «сваіх людзей» у цяперашнім парламенце?**

— У нас ёсць два дэпутаты ў Вярхоўным Савеце. І ёсць тыя, хто падтрымлівае партыю, па розных прычынах не ўваходзячы ў яе.

**— У апошні час нашы дробныя партыі не раз спрабавалі аб'яднацца ў розныя кааліцыі, — праўда, здаецца, без асаблівага поспеху. АДПБ схільнасці да аб'яднання не праяўляе. Чаму?**

— Аб'яднанне дзеля аб'яднання нічога не дае — патрэбна нейкая агульная ідэя, платформа. Супрацоўнічаць мы ні з кім не адмаўляемся, а ствараць новыя структуры, мне здаецца, няма патрэбы. Будуць выбары —будзе перадвыбарны блок. Складзецца небяспечная сітуацыя, якая запатрабуе агульных намаганняў — пойдзем на супрацоўніцтва, выпрацоўку канкрэтнай супольнай праграмы. У нас ужо ёсць вопыт: мы аб'ядноўваліся з іншымі дэмакратычнымі сіламі ў час мінулагодняга жнівеньскага путчу, у час збору подпісаў у падтрымку рэферэндуму. А аб'яднанне ў доўгатэрміновую кааліцыю магчымае толькі з тымі, хто вельмі блізкі да нас па праграмных мэтах.

**— Вы абапіраецеся на канкрэтныя сацыяльныя слаі?**

— Мы робім стаўку на актыўных ініцыятыўных людзей, — кім бы яны ні былі — сялянамі, прадпрымальнікамі, рабочымі... Ідэі свабоды, правоў чалавека, прыватнай уласнасці блізкія і зразумелыя кожнаму.

**— Тым не менш — хто найбольш ахвотна ўступае ў АДПБ, — маю на ўвазе сацыяльнае становішча?**

— Як і ў іншых маладых партыях, большасць у нас — інтэлігенцыя, прытым інтэлігенцыя тэхнічная. Колькасна партыя невялікая — не больш як тысяча чалавек.

**— Як Вы паставіліся да страты пасады ў Вярхоўным Савеце былога СССР?**

— Галоўнае — не тое, што я ці нехта іншы страціў пасаду. З'езд народных дэпутатаў на зыходзе мінулага года стаў тармазіць развіццё грамадства, эканамічныя рэформы. Ён не меў будучыні. І я як член Міжрэгіянальнай групы не раз выказваўся аб гэтым. Таму ўспрыняў роспуск З'езда як заканамерную непазбежнасць.

**— На Вашу думку, СНД мае будучыню?**

— СНД — тая форма суіснавання, якая дазваляе змякчаць трэнні, аблягчаць пераход да незалежнасці. Каб не СНД, распад Саюза суправаджаўся б яшчэ большай крывёю, чым цяпер.

**Гутарыў Валянцін ЖДАНКО, палітычны аглядальнік.**
**Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА.**

КДБ ПЕРАДАЕ НАЦЫЯНАЛЬНАМУ АРХІВУ 700 ТЫСЯЧ ДАКУМЕНТАЎ БЫЛЫХ РЭПРЭСІРАВАНЫХ

# З УДЗЕЛАМ ЭКСПЕРТАЎ ПАВІННА ВЫРАШЫЦЦА ПЕРАДАЧА БЕЛАРУСІ ГІСТАРЫЧНЫХ КАШТОЎНАСЦЕЙ, ЯКІЯ З'ЯЎЛЯЮЦЦА ЯЕ СПАДЧЫНАЙ

**22 красавіка Вячаслаў Кебіч падпісаў урадавую пастанову № 224. Яна на жаль, засталася амаль незаўважанай і сродкамі масавай інфармацыі, і грамадскасцю. Між тым, падзея ў той дзень адбылася неардынарная: у рэспубліцы створаны Нацыянальны архіў. Ён узнік на базе Цэнтральнага дзяржаўнага гістарычнага архіва РБ і былога партыйнага архіва КПБ у Мінску. Гэтай жа пастановай рэкамендавана аблвыканкомам стварыць на базе абласных партыйных архіваў і належачых ім будынкаў філіялы абласных дзяржаўных архіваў.**

— Яшчэ летась наш архіў разам з таварыствам архівістаў звярнуўся ў Савет Міністраў з прапановай аб утварэнні ўласнага беларускага нацыянальнага архіва. Мы напісалі, з чаго ён павінен складацца, што сабой уяўляць, — гаворыць намеснік дырэктара ЦДГА Беларусі, член прэзідыума Беларускага таварыства архівістаў Святлана Паўловіч. — Беларусь мае багатую шматвяковую гісторыю, якая адлюстравана ў сотнях тысяч дакументаў, у даведачнай літаратуры і г. д. Але і гэта — толькі маленькая часцінка. Па нашых землях праходзілі войны, бушавалі пажары, мы ўваходзілі ў склад розных дзяржаўных утварэнняў, а таму значная колькасць каштоўных сведчанняў нашай мінуўшчыны або згінула бясследна, або знаходзіцца за межамі Беларусі. Мы ведаем, дзе яны знаходзяцца, мы гатовы змагацца за іх вяртанне, але ў нас няма месца для іх захоўвання. Дакументы ўвогуле могуць загінуць.

Будынак, у якім месцімся сёння, даўно ўжо перапоўнены. З каштоўнымі матэрыяламі трэба працаваць, вывучаць іх, даследаваць, а для гэтага павінна быць добрая бібліятэка, чытальныя залы. Найлепей бы падышоў для гэтых мэт будынак партыйнага архіва па вуліцы Кірава ў Мінску —добра спраектаваны, з запасам плошчаў гадоў гэтак на дзесяць...

Я не магу сказаць, што далася гэтая пастанова проста і лёгка: працавала працяглы час архіўнае ўпраўленне, працавалі дзве камісіі Вярхоўнага Савета — па культуры і па навуцы, вялікую падтрымку аказалі акадэмічныя інстытуты, «Беларуская энцыклапедыя». Так што гэты дакумент — вынік працы многіх людзей, тым больш значная яго вага.

Цяпер мы пачалі працэс камплектавання. Камітэт Дзяржаўнай бяспекі перадае нам 700 тысяч дакументаў — у асноўным гэта справы былых рэпрэсіраваных. Ёсць яшчэ многа дакументаў, над якімі вісіць грыф «Сакрэтна», але час менавіта гэтых матэрыялаў ужо настаў. Імі трэба заняцца ўсур'ёз.

**— Якія асноўныя задачы, акрамя чыста тэхнічных, трэба вырашыць Нацыянальнаму архіву ў бліжэйшы час?**

— Большасць нашых калег у краінах СНД пазбавіліся ад мноства праблем, з якімі мы ўсё яшчэ сутыкаемся. Паўсюдна вырашана і вызначана роля архіўных службаў, прычым на ўзроўні міжнародных нормаў: ва ўсім свеце архіўная служба самастойная, яна нікому не падпарадкоўваецца, нават больш: яна мае права міжведамаснага кантролю. Усюды, дзе ствараецца дакумент, павінны працаваць нормы, бо сённяшні дакумент — гэта заўтрашні архіў. Вось і нам трэба дабіцца такога разумення нашай праблемы, каб хоць трымацца на ўзроўні суседзяў.

**— Многія нашы дакументы раскіданы па ўсім свеце. Вы сказалі, што ведаеце канкрэтныя месцы. Але хто непасрэдна зоймецца вяртаннем нашай спадчыны?**

— Вядома, сам архіў не зможа напрамую звярнуцца, скажам, да кіраўніцтва Расіі, Украіны, Літвы, Польшчы, Чэха-Славакіі ці Германіі. Архіўнае ўпраўленне можа ўзяць на сябе толькі ролю каардынатара ў камплектаванні дакументаў. Гэта даволі высокі статус. Ён ёсць ва ўсім свеце. Там мелі магчымасць апрабаваць розныя структуры, але ўсе спыніліся на самастойных, непадуладных нікому, апрача ўрада (і гэта натуральна), камітэтах па архівах. Вось у чыіх руках павінна быць усё.

**— Але давайце пагаворым пра канкрэтныя дакументы, калі можна...**

— Гісторыю нашай старабеларускай дзяржавы — Вялікага княства Літоўскага — мы ведаем сёння дзякуючы яе архіву — так званай Літоўскай метрыцы. Яна захоўваецца зараз у Маскве. Пытанне аб вяртанні метрыкі мы ўзнімем у самы бліжэйшы час — гэта справа гонару. Многа каштоўнага матэрыялу апынулася за межамі Беларусі ў час, калі кроіліся нашы граніцы —Вільня і Віленскі край (у Літве засталіся ўсе звесткі па Вілейцы), Беласточчына. На Украіне знаходзіцца славутая на ўсю Еўропу бібліятэка Храптовічаў з маёнтка Шчорсы. Многія старажытныя архівы, якія былі вывезены ад нас немцамі пад час акупацыі, вярталіся на радзіму чамусьці не прама, а праз Львоў, Рыгу, дзе і асядалі.

Тут трэба весці вельмі тонкую і разумную палітыку, каб іх вярнуць. Хутка ў мяне плануецца паездка на Украіну — там таксама знаходзяцца дакументы па гісторыі развіцця царквы на Беларусі — яны нашы і нічые больш. У Расіі знаходзіцца многа матэрыялаў аб паўстаннях 1831, 1863—64 гадоў — яны маглі б праліць святло на многія яшчэ нявысветленыя акалічнасці нашай гісторыі. Некаторыя дакументы ўскосна адносяцца да Беларусі: яны могуць належаць і, скажам, Расіі, і нам у аднолькавай меры. Таму калі няма магчымасці вярнуць іх, то трэба хоць зняць копіі, зрабіць мікрафільмы.

Наперадзе вялікая пошукавая работа. Дакументы вывозіліся не толькі ў вялікія гарады — Маскву, Пецярбург, Львоў, але і асядалі дзесьці ў глыбінцы. У час Айчыннай вайны 1812 года былі вывезены архівы Гомельскай і Магілёўскай губерняў, і сёння мы амаль што нічога па іх не маем. Вядома толькі, што яны адпраўляліся ў Маскву праз Чарнігаў, ёсць звесткі, што гэты горад абозы мінулі, а затым іх сляды губляюцца.

Парадокс, але ў самым буйным архіве рэспублікі зараз працуюць толькі 27 навуковых супрацоўнікаў, хоць па норме мы павінны мець ужо не менш 70. Гэта на той аб'ём дакументаў, які ёсць. Усе яны заняты тэхнічнай работай. А трэба ж і некуды выехаць, заняцца пошукавай работай. Нам патрэбна падтрымка дзяржавы, нам патрэбны грошы. Трэба таксама аб'яднаць намаганні ў адной карыснай справе і архівістаў, і гісторыкаў, і археолагаў. Акадэмія навук, «Белспецрэстаўрацыя», Скарынаўскі цэнтр — з гэтымі арганізацыямі мы супрацоўнічаем, але патрэбна падтрымка і іншых.

**— Некалькі тыдняў назад у Мінску праходзіла сустрэча кіраўнікоў архіўных службаў краін СНД. Што абмяркоўвалася на ёй? Якія вынікі?**

— На сустрэчы ўзнімаліся пытанні каардынацыі работы архівістаў былых саюзных рэспублік. Мы былі дастаткова цесна ўзаемазвязаны. Важна цяпер не дапусціць поўнага разрыву гэтых сувязей. Нашы дакументы знаходзяцца ў многіх краінах. Дамаўляцца з кожным паасобку — цяжкая справа (хоць і двухбаковыя дагаворы мы заключаем), лягчэй усё вырашыць адразу.

Вырашана таксама пытанне аб допуску да архіваў. Кожная рэспубліка павінна прадаставіць магчымасць усім архівам працаваць у сябе без абмежаванняў.

Мы памятаем той дакумент, які падпісаны некалькі месяцаў назад: аб передачы ўсіх гістарычных каштоўнасцей таму, каму яны належаць. Гэта тычыцца і архіўных дакументаў. Мы спадзяёмся на ўзаемаразуменне, што спакойна, з удзелам экспертаў будуць вырашаны пытанні перадачы Беларусі гістарычных каштоўнасцей, якія з'яўляюцца яе спадчынай.

**Анатоль СЛАНЕЎСКІ.**

